# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 19 (480) | ГОД X | 9 МАЯ 1965 года | ЦАНА 60 гр.


## ДНІ СЬВЯТАСЦІ

Артыкул 62 Канстытуцыі Польскай Народнай Рэспублікі гаворыць: «Грамадзяне ПНР маюць права да карыстання са здабычаў культуры і да творчага ўдзелу ў развіцці народнай культуры».

Глянем вакол. Школы, святліцы, клубы, бібліятэкі, кіно, радыё, тэлевізары. На кожным кроку, у кожнай вёсцы. Кніжка, газета суправаджае нас, служыць нам. Прызвычаіліся мы ўжо да ўсяго гэтага і не задумоўваемся над велічынёю таго, што маем, што дае нам радасць, веды, адпачынак, што служыць нашаму шчасцю. Але ўсё ж, хвілінку, затрымаемся і глянем назад. Многія з маіх

(Працяг на стар. 5)


Дні асветы, кніжкі і друку. Гайнаўскія школьнікі выйшлі на вуліцы свайго горада ў касцюмах, якія нагадваюць постаці папулярных літаратурных герояў.
Фота: М. Тарасевіч

Сёння ў гасцях у нас

МІХАСЬ МАШАРА

## КАЛІ ДЗЕНЬ АДЫХОДЗІЦЬ

Калі дзень адыходзіць і вечар
на зямлі кладзе доўгія цені,
сэрца тужыць паціху аб нечым
і злятаюць адкульсь летуценні.

На дне памяць сквапліва хавае,
праляцеўшыя дні і мінуты.
Дакранеш і яны ажываюць,
адны — шчасцем, другія — пакутай.

Нібы ветры ціхія на дрэвах,
шалясцяць пралятаючы думы.
Гэта песень не спетых напевы,
дзесь у далях знікаюць без шуму.

Аджываюць у сэрцы ўспаміны,
прамінуўшая радасць і гора.
Адыйдзе так усё... і дзесь згіне,
не вярнуць нам і міга з учора.

А зірнеш у душу, бы ў люстэрку,
з глыбіны перажытых бяздонняў,
зноў выходзіць усё на паверку,
ад калыскі да самага сёння.

Усе страты, памылкі і жалі,
і надзеі нязбыўшыхся мараў,
абжыліся... дамашнімі сталі,
не пякуць ужо сэрца пажарам.

Калі сонца заходзіць і вечар
над зямлёю зарой палымнее,
дзень не ўвесь патанае у вечнасць,
пакідае на новы — надзею.

Сакавік, 1965 г.

Не стаўце людзі агарожаў
з чыгунных episodes кратаў і парканаў.
У сад расквечаны, прыгожы,
хай мае права кожны глянуць.

Няхай глядзяць...
Хай кормяць вочы
красою сонечнай у кветках.
Вясна для ўсіх быць шчасцем хочыць,
для ўсіх прыносіць радасць лета.

І гэта зелень лісця, траваў,
што сэрца хваляваць так можа,
усім належыць нам па праву, —
здыміце ж людзі агарожы!

І не трымайце пад замкамі
цудоўны дар вясны і сонца.
Глядзець на свет трэба вачамі
без крат астрожнага ваконца.

15. VII. 1964 г. Дубалты.


Прыклад вялікага таленту і працавітасці акцёра-аматара — ЛІЗА ЯРМОШ з Сямяціч. (Да артыкула «Аматары на вышыні» стар. 4.)

## НАШ КАМЕНТАРЫЙ

**У нашым штодзённым жыцці не заўсёды хапае часу, каб прызадумацца аб справах, якія непасрэдна не адносяцца да нашай сям'і, да нашай гаспадаркі. Нагоду ствараюць выбары ў Сейм і ў рады народовыя ўсіх узроўняў, якія, як вядома, дэкрэтам Дзяржаўнага Савета назначаны на дзень 30 мая.**

**Ёсць гэта падзея асноўнай важнасці ў жыцці народа.**

**У пасляваеннай гісторыі Польшчы цяперашнія выбары будуць пятымі па чарзе выбарамі ў Сейм і чацвёртымі выбарамі радных.**

**Кіруючай сілай нашага народа з'яўляецца Польская аб'яднаная рабочая партыя. Яна супольна з Аб'яднаным Стронніцтвам людовым і Стронніцтвам дэмакратычным саставуляе асноўнае ядро Фронту адзінства народу.**

**За намі 20 год мірнай, творчай працы. Пад кіраўніцтвам партыі рабочага класа дасягнула наша краіна такога ўзроўню развіцця, аб якім хіба нават не марылі аўтары гістарычнага ліпеньскага Маніфеста з 1944 года. Мінулы час поўнасцю пацвердзіў глыбокую мудрасць выбранай тады дарогі, у аснову якой перш за ўсё была палажана братэрская дружба з Савецкім Саюзам. Таму новы Дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе, падпісаны ў Варшаве 8 красавіка г. г., быў так прыхільна і энтузіястычна ўспрыняты ўсім грамадствам Польшчы. Ён выключна падмацаваў і так ужо высокі ранг нашай Айчыны ў цяперашнім неспакойным свеце.**

**Шырока вядомы мірныя ініцыятывы нашых дзяржаўных правадыроў. Нам патрэбны мір, мы хочам міру і змагаемся за яго.**

**Нашу сілу павялічвае кожны з нас сваёй штодзённай працай, гэтай сілай з'яўляюцца дасягненні ў развіцці нашай гаспадаркі.**

**Якія яны?**

**Вернемся думкамі да пачатку 1961 года. Тады, як і цяпер, Ваяводскі Камітэт Фронту адзінства народу ў Беластоку прадставіў быў насельніцтву Беласточчыны сваю выбарчую праграму. Зараз ён сцвярджае:**

## ДУМКІ НАД ВЫБАРЧАЙ ПРАГРАМАЙ

**«Асноўныя заданні, хаця не ўсе, намечаныя гэтай праграмай, былі выкананы».**

**Словы «хаця не ўсе» адносяцца перад усім да сельскай гаспадаркі. Але і ў гэтай галіне на працягу мінулых чатырох год зрабілася на Беласточчыне шмат чаго добрага. Паспяхова праходзіла меліярацыя, механізацыя, электрыфікацыя і хімізацыя. А гэта ж асноўныя фактары развіцця сельскагаспадарчай прадукцыі. Асвоена каля 70 тысяч гектараў дрыгвястых лугоў, над дахамі больш як кожнай другой вёскі звіняць драты электралініі (65%), на палях заграхатала 3.166 трактараў, а пастаўкі штучных угнаенняў (улічваючы сёлеташні план) амаль што падвоіліся. Праўда, не заўсёды можна было купіць у магазінах удосталь гэтай жыццёдайнай для раслін «солі», не хапала цэменту і цэглы, але гэта толькі таму, што неяк гвалтоўна «звышпланава» ўзрасло раптам запатрабаванне сялян на гэтыя прадукты. Прамысловасць аднак ужо паспяхова даганяе гэтае запатрабаванне.**

**Усё гэта, зразумела, непасрэдна садзейнічала росту даходу сялян. За прададзеныя дзяржаве прадукты атрымалі яны ў 1964 годзе 3 мільярды 350 мільёнаў злотых, гэта значыць, на звыш 35% больш, чымсьці 4 гады таму назад.**

**На развіццё гаспадаркі Беластоцкага ваяводства спатрэбілася ў бягучай пяцігодцы звыш 10-ці мільярдаў злотых. На гэтыя грошы, між іншым, пабудавана:**

**Бульбяны камбінат у Ломжы, мясны камбінат у Беластоку, трыкатажную фабрыку ў Кольне, мэблевую фабрыку ў Супраслі, завод высакаякасных кармоў і аграмадны млын у Старасельцах, малачарні ў Гайнаўцы, Сямятычах, Замброве і ў Высокім Мазавецкім.**

**А яшчэ цяпер будуецца:**

**Завод лёгкіх бетонаў у Снядове, мэблева-шпалерны завод у Сувалках, тарфовае прадпрыемства «Імшар» пад Міхаловам, тры малачарні і шмат другіх меншай важнасці прамысловых аб'ектаў.**

**Як бачым, спісак даволі багаты. Значыць, работа ідзе поўным ходам, значыць кожны год прыносіць нам усё штосьці новага. Магчыма, што не так шпарка, як бы мы сабе жадалі,**

(Працяг на стар. 4)

## ГАВОРАЦЬ ФАТАГРАФІІ



Кіраўнікі партызанскага і камсамольскага падполля Мінскай вобласці.



Партызанская «зенітка» вядзе агонь па варожых самалётах.



Партызаны разбураюць чыгуначнае палатно паміж станцыямі Цімкавічы і Слуцк.

# СВЯШЧЭННАЯ БАРАЦЬБА

## З УКЛАД БЕЛАРУСКАГА НАРОДА Ў РАЗГРОМ ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ

Крывавы рэжым, які ўстанавілі гітлераўцы на акупаванай Беларусі, не зламаў імкнення беларускага народа да свабоды і незалежнасці. З першых жа дзён разгарэлася полымя свяшчэннай барацьбы з захопнікамі. У Беларусі вялі барацьбу супраць гітлераўскіх бандытаў звыш 370 тысяч байцоў, аб'яднаных у 1108 атрадах і звыш 70 тысяч падпольшчыкаў. Такім чынам, армія народных мсціўцаў Беларусі перавышала 440 тысяч асоб. Апрача таго, амаль 400 тысяч асоб, якія жылі ў вёсках і лясных лагерах і былі на ўчоце ў атрадах і брыгадах, складалі партызанскія рэзервы. За мужнасць і доблесць праяўленыя ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі, звыш 100 тысяч патрыётаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза, а 74 —прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза. За тры гады барацьбы сіламі патрыётаў і пры падтрымцы ўсяго народа, было разгромлена 948 гарнізонаў і штабаў праціўніка, узарвана звыш 11 тысяч варожых эшалонаў з войскамі і ўзбраеннем, знішчана вялікая колькасць складаў, танкаў, аўтамашын, матацыклаў і іншай ваеннай тэхнікі гітлераўцаў. Сваімі баявымі дзеяннямі атрады народных мсціўцаў наблізілі дзень поўнага разгрому нямецкай арміі, дзень вызвалення сваёй Радзімы і народаў іншых краін ад фашысцкай пагані.

## ГАВОРАЦЬ ФАТАГРАФІІ




Газеты, выдаваныя падпольнымі партыйнымі і камсамольскімі арганізацыямі ў гады Вялікай Айчыннай вайны па Беларусі. Іх выходзіла 162.



Калгаснік Шчыпар Рыдлеўскі і яго дзве дачкі — партызаны.



Танкетка партызанскага атрада імя Кірава выходзіць на баявое заданне.

На пастарунку было ўжо поўна людзей. Штораз паліцыянты прыводзілі новых. Узялі мяне на допыты...

Лёгка цяпер сказаць: узялі на допыты. А паспрабуйце ўявіць сабе, што адчуваў шаснаццацігадовы хлапчук, калі паліцыя раптам без ніякай прычыны забрала яго з вуліцы, як нейкага разбойніка.

Паліцай, схапіўшы за каўнер, швырнуў мяне ў адкрытыя дзверы. Там ужо чакала двух другіх. Я не змог утрымацца на нагах, падаў. Адзін з іх паставіў мяне на ногі кулаком пад нос. У вачах замільгацелі крушынкі вясёлкі. Як праз сон пачуў я грозны голас паліцая:

— Хто ты? Адкуль? Чаго ў Бельску?

Што ж я мог ім сказаць? Гаварыў праўду. Не верылі.

Дапытваліся пра нейкія лістоўкі, пра камуністаў, пра камсамол. Шчыра скажу, расплакаўся я, як дзіця. Не разумеў, чаго яны ад мяне хочуць, за што здзекваюцца, чаму не вераць, калі гавару праўду.

Адкуль жа мог я тады ведаць пра кастрычніцкую рэвалюцыю, пра сёмага лістапада? Проста не цікавіла мяне палітыка. Пагоня за працай, за марным грошам без рэшты займала маю ўвагу, паглынала мазгі. І раптам паліцыя арыштоўвае мяне за... палітыку! У вачах паліцаяў — я адзін сярод гэтых, чыі рукі ў лістападаўскую ноч раскінулі лістоўкі, што славілі трыумф Вялікага Кастрычніка.

Допыты працягваліся цэлы дзень. Я ўпарта паўтараў сваё. Нейкі старшы, здаецца Радульскі, прыказаў мяне завесці да яўрэя Лейбка на вочную стаўку. Уласнік крамы з халоднымі напіткамі заступіўся за мною. Пацвердзіў мае паказанні.

Доўга насіў я карычневыя акуляры і адвешаныя ад вопухлі губы, але ў вачах неяк паяснела, вушы таксама шырэй адчыніліся. Яшчэ я гэтага поўнасцю не асвядаміў, але маё жыццё перастаўлялася на новую дарогу.

**У дапамогу настаўнікам**

## «Свята Перамогі»

**(Метадычная кансультацыя)**

Плануем яго ў суседстве з днём 9 мая. На папярэдніх уроках неабходна ўжо мець прачытанае з класам апавяданне «Салдацкі ножык» (падручнік «Беларускае слова III», стар. 168—172). Пасля праверкі хатняй работы можам пачаць рэалізацыю нашай тэмы заданнем для вучняў знайсці месцы ў апавяданні, у якіх гаворыцца аб тым, што бацька хлопчыка быў афіцэрам. Затым занава перачытаць успамін бацькі з часоў вайны. У гутарцы з вучнямі на тэму гэтых успамінаў асаблівую ўвагу звяртаем на: 1) адказнасць і небяспеку вайсковай службы, 2) жорсткасць і нечалавечыя адносіны фашыстаў да людзей, 3) сілу салдацкай дружбы і дапамогу насельніцтва салдатам арміі — вызваліцельніцы. Затым, падобна як у другім уроку, шляхам пытанняў і адказаў устанаўляем, што дзень дзевятага мая — гэта свята Перамогі. Трэба расказаць дзецям пра тое, як у выніку гераічнага змагання на працягу амаль чатырох год Савецкая Армія і разам з ёю Войска Польскае разграмілі фашыстаў-захопнікаў. 9 мая 1945 года гэтая вайна была закончана перамогай. У гонар гэтай вялікай падзеі дзень 9 мая стаў святкавацца як Дзень Перамогі. Потым знаёмім вучняў з вершам Пімена Панчанкі «Навекі слава!».

Навекі слава доблесным салдатам,
Што пераможна ішлі за свой народ
Ад легендарных камняў Сталінграда
Да Брандэнбургскіх выклятых варот.

Навекі слава тым, што ў полі ратным
Загінулі за родныя палі,
За наш народ, за лёс народаў братніх,
За дзень наступны усяе зямлі.

Няпраўда, што засыпалі іх жвірам, —
Ім у стагоддзях вечна жыць і жыць.
Стаяць яны, як абаронцы міру,
На самым на пярэднім рубяжы.

Стаяць на плошчах Прагі і Варшавы,
І воблік іх відзён здалёку нам.
Стаяць на варце нашай працы, славы,
На страх заакіянскім груганам.

Бяссмертныя іх помнікі крані ты —
І цеплыню адчуеш пад рукой:
Іх высеклі не з камняў, не з граніту, —
З людской любві, з удзячнасці людской.

(Працяг на стар. 5)



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Навука і практыка на Гайнаўшчыне

Яшчэ не так даўно гаворачы «гаспадар» рэдка хто разумеў, што гэта нялёгкая прафесія, якая патрабуе не толькі практыкі з дзеда-прадзеда, але і пастаяннай навукі. Таму неабходна пастаянна вучыцца, павышаць узровень сваіх ведаў аб сельскай гаспадарцы.

Патрэбна сістэматычная і масавая сальскагаспадарчая адукацыя.

Усе і ўсюды гавораць ужо ўголас, што толькі сельскагаспадарчая адукацыя спалучаная з матэрыяльнымі сродкамі, якімі штораз багацей забяспечвае нас дзяржава, ёсць магчымым рушыць наперад нашу вёску. Многія гаспадары ўжо ўмеюць разважна і разумна весці свае гаспадаркі, але такіх гаспадароў яшчэ мала. Справа ў тым, каб да ўзроўню гэтых лепшых падцягнулася рэшта, **значная большасць** нашых гаспадароў.

Восенню мінулага года ў Гайнаўскім павеце пачагася арганізацыя масавай сельскагаспадарчай адукацыі. Утворана 44 гаспадарскія гурткі самаадукацыі, да якіх запісалася 2.041 асоба. Кіраўнікамі гэтых гурткоў былі, пераважна, настаўнікі альбо солтысы. Пры кожным гуртку ўтворана камісію грамадскіх актывістаў, якія аналізавалі ўзровень і актыўнасць паасобных слухачоў данага гуртка.

Спачатку арганізацыя масавай сельскатаспадарчай адукацыі адбывалася даволі марудна. Не ў кожнай вёсцы ёсць памяшканне, дзе можна збіраць большы гурт людзей — не ўсюды ёсць школа ці святліца. 17 гурткоў збіралася на навуку ў гаспадарскіх хатах. Не хапала таксама навучальных дапаможнікаў і адпаведнай літаратуры, не ўсюды была добрая апека з боку спецыялістаў, якія абавязаны дапамагаць гурткам у здабыванні ведаў. Нягледзячы на ўсе гэтыя перашкоды заняткі ў гуртках сельскагаспадарчай адукацыі адбываліся аднак даволі рэгулярна.

Справе арганізацыі масавай сельскагаспадарчай адукацыі найбольш увагі прысвяціла грамадская рада ў Кляшчэлях. Яе старшыня Яўген Яфімюк асабіста наведаў многія гурткі, заахвочваў гаспадароў, каб цікавіліся сельскагаспадарчай навукай, кніжкамі — праводзіў размовы з тымі, якія нерэгулярна прыходзілі на заняткі гурткоў. Дзякуючы таму ў вёсках Кляшчэлеўскай ГРН існавала 7 гурткоў, у кожным па звыш сорак гаспадароў.

На ўсё гэта патрацілася шмат сіл і сродкаў.

Каб гурткі далі спадзяваную карысць гаспадарам трэба цяпер больш зацікавіцца, як гаспадары выкарыстоўваюць у практыцы здабытыя веды.

**Для добрай арганізацыі працы гурткоў сельскагаспадарчай адукацыі добра прычыніўся інж. Аляксандр Ражкевіч, кіраўнік Павятовага Аб'яднання сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы. Ён таленавіты арганізатар і энтузіяст ідэі масавай сельскагаспадарчай адукацыі ў нашых вёсках. Клапаціўся, каб да кожнага гуртка пунктуальна ў вызначаную гадзіну прыбыў лектар-спецыяліст, а гэта не было лёгкім у мінулую цяжкую зіму. Але трэба падкрэсліць, што лектары наогул стараліся і добра выконвалі свае абавязкі. Найбольш актыўнымі і** працавітымі лектарамі былі: Юзэф Яблонскі, Аляксандр Хіліманюк, Іван Раманюк.

6 красавіка адбылося пленарнае пасяджэнне Камітэта па справах сельскай гаспадаркі, які існуе пры Павятовым Камітэце ПАРП у Гайнаўцы. Зроблена ацэнку арганізацыі масавай сельскагаспадарчай адукацыі ў тайнаўскіх вёсках і, што найважнейшае, абавязана сельскагаспадарчую службу ў Гайнаўскім павеце, каб дапамагала цяпер гаспадарам **уводзіць у практыку здабытыя імі веды** ў час зімовых заняткаў у гуртках.

**С. Ф. — Гайнаўка**

Тыдзень заходніх земляў

# ПАЎНОЧНЫЯ ПАВЕТЫ

Паўночныя землі Беластоцкага ваяводства з'яўляюцца галоўнай базай рэпрадукцыі кваліфікаванага збожжа. Ваяводскае аб'яднанне ПГР на тэрыторыі трох паўночных паветаў (Элцкага, Алецкага і Галдапскага) групуе 125 сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, якія валодаюць 72430 га зямлі, што складае больш як 80% арэалу ПГР на Беласточчыне.

Ужо ў першых пасляваенных гадах дзяржава старалася інтэнсіўна адбудаваць і загаспадараваць паюнкерскія маёнткі, арганізоўваючы дзяржаўныя гаспадаркі.

У выніку хуткага загаспадаравання гэтых земляў пры дапамозе дзяржавы з кожным годам паспяхова развіваецца сельскагаспадарчая вытворчасць. У першых пасляваенных гадах на 12.808 індывідуальных гаспадарак, больш як 4.300 адбудавала дзяржава, а апошнія скарысталі з фінансавай дапамогі і ў постаці матэрыялаў.



Помнік героям, загінуўшым у час вызвалення Алецкай зямлі.

Фота: А. Казёл



Жылыя кварталы Алецка

Зараз у 195 пачатковых школах навучаецца 22.504 дзяцей, а ў агульнаадукацыйных ліцэях — 1.147 вучняў.

Працуе там 3 тэхнікумы і 4 засадніччыя прафесіянальныя школы.

Існуе ў гэтых трох паветах 18 кіно, 10 бібліятэк з 89 бібліятэчнымі пунктамі. Працуе блізка 600 пунктаў паслугі, 35 гастранамічных устаноў, адбудавана ў Элку, Алецку і Галдапі вадаправоды і газоўні. У ахове здароўя працуе 80 лекараў, 22 зубныя лекары і 15 фармацэўтаў. У Алецку і Галдапі, а найбольш у Элку, шмат прамысловых прадпрыемстваў.

# Свята Перамогі

(Працяг са стар. 3)

Высняем незразумелыя словы і звароты («доблесны» — слаўны, гераічны «Сталінград» — сёння Волгаград, месца дзе фашысцкія захопнікі пацярпелі ад Савецкай Арміі вялікае паражэнне, у выніку якога іх магутнасць пачала хіліцца да заняпаду, «ратнае поле» — месца змагання салдат, «рубеж» — граніца, пярэднікрай, «груганы» — тут: людзі, якія жадаюць вайны і смерці).

Перачытваем верш занава і па яго змесце правадзім гутарку, падкрэсліваючы наступныя моманты: 1) пачуцці ўдзячнасці ўсіх народаў воінам Савецкай Арміі за вызваленне з-пад фашысцкай няволі, 2) святую памяць усіх людзей, пра тых, хто загінуў за гэтую вялікую справу, 3) польска-савецкае братэрства па зброі, якое нарадзілася ў часе супольнага змагання супраць фашыстаў. Пры гэтым добра будзе прадэманстраваць здымкі помнікаў удзячнасці, якія ўзнесены загінуўшым воінам Савецкай Арміі на нашых землях. Устанаўляем тэму ўрока: «Свята Перамогі».

**ЛІДЗІЯ ГАЙДУК**

Бельск Падляшскі

## У БЕЛАСТОЦКІМ ЗВЯРЫНЦЫ

У Беластоку ствараецца Заалагічны парк. Шмат радасці, асабліва дзецям, дае цяпер прагулка ў парк у Звярынцы, дзе знаходзяцца ўжо першыя прадстаўнікі чацвераногіх. На здымку: сарны не баяцца людзей і падыходзяць да самай агарожы.

**Фота (см)**



# Дні асветы

(Працяг са стар. 1)

чытачоў мабыць нават не ўбачаць, агляну ўшыся, таго, што было — проста іх тады не было. Яны выраслі ў іншых днях — светлых і багатых, днях сытых у кніжку.

Нашы людзі любяць падумаць. А калі хто думае, то ўмее глядзець. У галіне асветы і культуры зрабілася і робіцца ў нас вельмі многа.

Дні асветы, кніжкі і друку — майскія дні — штогод святкуем іх для таго, каб падкрэсліць нашы сто-тысячу мілёвыя крокі ўперад. Што гэта праўда, такі прыклад. Пару год таму майскія дні мы святкавалі не ўспамінаючы тэлевізараў. А цяпер колькі іх!

«Дні» служаць для таго, каб глянуць цвяроза на нашу маёмасць, каб ацаніць справядліва, каб паказаць найлепшае, каб узнагародзіць найлепшых. Чалавек творыць гмах дабрабыту. Грамадзянін народнай Польшчы **мае права тварыць народную** культуру. Не культура групы высокапастаўленых, а **народная!** Не культура з вялікіх банкаў і прамысловых канцэрнаў, а **народная.** Не для некаторых, а для **народа.**

А што такое права запэўнена, сведчаць дзесяткі святліц, клубаў і тэлевізараў, сотні кіно і бібліятэк, мільёны кніжак і газет. Ніхто не можа наракаць на іх недахоп, ніхто не можа сказаць, што гэта няпраўда.

Дні асветы, кніжкі і друку — для таго, каб мы, урачыста іх праводзячы, пацешыліся ўсім здабытым.

**Вера Леўчук**

# НАШЫ АЎТАРЫ

## Міхась Машара

Нарадзіўся 5 снежня (ст. ст.) 1902 года ў вёсцы Таболы, на Віленшчыне, у беднай сялянскай сям'і. У 1920 г. добраахвотна ўступіў у рады Чырвонай Арміі. Адыходзячы з-пад Варшавы, дывізія, у якой служыў Машара, трапіла ў акружэнне і вымушана была інтэрніравацца, перайшоўшы граніцу Прусіі. Тут яе раззброілі, і Машара апынуўся аж у Саксоніі, у лягеры Зальцведаль, дзе прабыў адзінаццаць месяцаў. Пасля заключэння Рыжскага мірнага дагавору салдатам, якія паходзілі з Заходняй Украіны і Беларусі, было дазволена вяртацца дамоў. Апынуўшыся ў Польшчы, Міхась Машара трапіў у канцэнтрацыйны лагер «Шчыпёрна» ў Верхняй Сілезіі. Прасядзеў там восем месяцаў. У лістападзе 1923 г. яго прызвалі ў польскую армію. Служыў у Гродна. Тут пазнаёміўся з Сямёнам Серадой, старым бальшавіком. Гэты чалавек адыграў у жыцці Машары вялікую ролю. Дагэтуль Машара захапляўся рэвалюцыйным рухам больш па прычыне юнай рамантыкі, чым цвёрдага палітычнага пераканання. Сямён Серада зрабіў яго свядомым барацьбітам. Пасля дэмабілізацыі, вясной і летам 1926 года Машара актыўна ўключаецца ў арганізацыю гурткоў Грамады. Летам яго выклікаюць у Вільню працаваць у Цэнтральным камітэце Грамады. Як інструктар многа ездзіць па раёнах. У пачатку 1927 г. Грамада была разгромлена. За кратамі апынуліся паслы — грамадаўцы і кіраўнікі гэтай арганізацыі, больш шасці тысяч чалавек.

У гэты час М. Машара з'яўляецца рэдактарам грамадаўскай газеты «Наша воля». Пасля трэцяй канфіскацыі і ён сеў за краты. Чатыры гады прасядзеў у віленскай турме «Лукішкі». У пачатку 1928 г. турэмны камітэт пераслаў на волю нізку вершаў Машары. **Яны і склалі зборнік «Малюнкі», які неўзабаве выйшаў на сродкі МОПРа. Гэта акрыліла Машару і вырашыла яго лёс. Ён стаў пісаць больш, смялей і сістэматычна.**

**Да канца астрожнага тэрміну вершаў сабралася мно**га. І калі Машара выйшаў на волю, таварышы на сродкі МОПРа дапамаглі яму выдаць зборнікі «На сонечны бераг» і «На праддвесні». Грошы, атрыманыя ад продажу гэтых кніг, склалі яго выдавецкі фонд: дзякуючы гэтаму, убачылі свет яго паэмы «Смерць Кастуся Каліноўскага», «Мамчына горка» і «Вяселле», п'есы «Вось тут і зразумей», «Чорт з падпечча» і «Лёгкі хлеб». Зборнік вершаў «З-пад стрэх саламяных» быў канфіскаваны ў канцы 1937 г. Так лопнуў выдавецкі фонд Машары. Новы зборнік, падрыхтаваны да друку, — «За ваколіцай сініх балот», — загінуў у Вільні ў часе польска-нямецкай вайны.

У 1939 г. Машара быў дэпутатам Народнага Сходу, які адбываўся ў Беластоку. Народны Сход выбраў яго членам паўнамоцнай камісіі, якая ездзіла ў Маскву на сесію Вярхоўнага Савета.

**У часе вайны М. Машара працуе ў ваенным друку. Пасля вайны працуе ў «Полымі», «Настаўніцкай газеце» і ў «Калгаснай праўдзе».** Апошнія гады займаўся пераважна дзіцячай літаратурай. Напісаў шэраг вершаваных казак, невялікіх паэм. Зараз працуе над аповесцю, у аснове якой леглі падзеі жыцця і рэвалюцыйнай барацьбы працоўных былой Заходняй Беларусі. За пасляваенныя гады выйшлі ў свет наступныя яго кнігі вершаў і паэм: «Беларусі», «Выбраная лірыка», «Лирика» (на рускай мове), «Праз навальніцы», «Урачыстасць», «Выбраныя творы», «Ад родных аселіц» і «Мая азёрная краіна». Міхась Машара жыве ў Мінску. З'яўляецца сталым чытачом «Нівы» і ўтрымлівае з нашай рэдакцыяй сувязь.

